**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 33 (749) 14 жніўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by


9.08.2014 г. Вадасвятны малебен на крыніцы Грамякі.
Фота Ул. Скрабатуна.



## МНС інфармуе
**на 12.08.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 688;
Гібель людзей – 71, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 504.87 млн. руб.

**Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на**
**№166**

Гарадоцкі раён

# Зноў аўральны рэжым

■ Станіслаў Раманчук

**За многія гады правядзення рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі рэдка калі было, каб падрыхтоўка да "Дажынак" вялася спакойна і без мітусні.**

Вось і сёлета прыбыўшага ў Гарадок з рабочай паездкай прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча ўстрывожыў паўразбураны стан райцэнтра. Хоць кіраўніцтва вобласці ацэньвала стан гатоўнасці аб'ектаў кірмашу 62 %, але вопытныя ўпраўленцы ўрада ведаюць, што за два застаўшыяся месяцы не ўсе з іх атрымаецца здаць у эксплуатацыю ва ўстаноўленыя тэрміны. Пакуль толькі на цэнтральнай плошчы, дзе пройдуць асноўныя мерапрыемствы свята хлебаробаў, самая высокая ступень гатоўнасці. Не так шмат працы і ў мясцовым кінатэатры "Радзіма", дзе будаўнікі завяршаюць рэканструкцыю будынка. Пастараліся і спецыялісты і на большасці гандлёвых аб'ектаў горада, з'явіўся тут і сучасны рынак з крытымі ралетамі. А вось на астатніх аб'ектах прыйдзецца спяшацца, працаваць фактычна днём і ноччу без выхадных, каб прывесці вялікую будоўлю ў чалавечы выгляд. Таксама ўжо пацярпеў гарадскі стадыён, з-за эканоміі сродкаў вырашылі пакінуць гэты спартыўны аб'ект без рэканструкцыі. Дарэчы, узнікла і праблема пошуку спонсарскіх грошай, якіх разлічвалі атрымаць 250 млрд. рублёў, а будзе значна меней. У выніку глава беларускага ўрада прызнаў ход падрыхтоўкі Гарадка да правядзення "Дажынак" нездавальняючым. Было ім дадзена даручэнне сканцэнтраваць асноўныя намаганні будаўнікоў найперш на аб'ектах з высокай ступенню гатоўнасці, каб зусім не праваліць гэту справу.

Полацкі раён

# Дзвіну чакаюць перамены

■ Кастусь Александровіч

**Удалаведнасцізайчыннай канцэпцыяй энергетычнай бяспекі Беларусі на Віцебшчыне намечана стварыць да 2020 года каскад з чатырох гідраэлектрастанцый.** Паблізу Полацка ў садружнасці з расіянамі ўжо актыўна ўзводзіцца першая такая ГЭС. Звыш двух гадоў вяліся падрыхтоўчыя работы па пачатку ўзвядзення і самай магутнай такой станцыі паблізу абласнога цэнтра. Днямі ў ваколіцах гарпасёлка Руба на адным з высокіх берагоў Заходняй Дзвіны з удзелам міністра энергетыкі РБ У. Патупчыка і кітайскіх інвестараў пачалося ўзвядзенне першых бетонных канструкцый плаціны будучай ГЭС магутнасцю 40 МВт. Для гэтага спачатку будаўнікам прыйшлося перакрыць русла ракі і ўзвесці абвадны канал, пад'язныя шляхі, жылыя і сацыяльныя аб'екты, сталовую, РБУ, мініi завод і іншыя цэхі, падвесці электраэнергію. Бетонныя работы пачаліся ў катлаване вышынёй з 9-павярховы дом на глыбіні 20 метраў ніжэй русла ракі. Першыя кілаваты даволі таннай электраэнергіі разлічваюць атрымаць ужо праз 3 гады. З уводам Віцебскай ГЭС у эксплуатацыю штогод атрымаецца эканоміць да 7 млн. долараў і забяспечваць светам і цяплом цэлы прыгарадны раён. На гэты праект пойдзе каля 190 млн. долараў, большую частку сродкаў складуць кітайскія крэдыты іх Нацыянальнай энергакампаніі. Услед за абласным цэнтрам на Дзвіне пачнуць узводзіць Бешанковіцкую і Верхнядзвінскую ГЭС, для якіх падбіраюць інвестараў і ўжо прапанавалі далейшае супрацоўніцтва з Кітаем, які цяпер узводзіць гідраэлектрастанцыі ў 50 краінах свету. З'яўленне каскаду ГЭС зробіць галоўную раку вобласці цалкам суднаходнай.

Браслаўскі раён

# І рыбка не ў пашане

■ Чэслаў Якубовіч

**У параўнанні з буйнымі гарадамі нешматлікім прадпрыемствам глыбінкі прыходзіцца яшчэ цяжэй на рынках збыту сваёй прадукцыі.**

З такой праблемай сутыкнуўся цяпер і вытворчы ўчастак "Браслаўрыба", які нядаўна стаў філіялам Глыбоцкага МКК. У гэтым райцэнтры азёрнага краю калісьці быў свой рыбзавод, ды і зараз на прадпрыемстве з колькасцю персаналу амаль 140 чалавек працуе шмат прафесіяналаў сваёй справы з вялікім вопытам. У недалёкім мінулым з яго вытворчых ліній ў месяц выходзіла да мільёна розных рыбных кансерваў да 40 найменняў, прадавалася браслаўская рыбная прадукцыя і на расійскіх прасторах. Аднак у гэтым годзе аб'ёмы вытворчасці прыйшлося знізіць і сутыкнуцца, як і іншым айчынным прадпрыемствам, з праблемай збыту. У сярэдзіне лета на складах браслаўчан знаходзіліся амаль двухмесячныя запасы гатовай прадукцыі. Львіную долю неліквіду складаюць добра знаёмыя людзям старэйшага пакалення рыбныя кансервы з кількі абжаранай. Разам са шпротамі яны карысталіся асаблівым попытам у савецкіх людзей. Аднак цяпер такая наша прадукцыя прайграе канкурэнтам з расійскіх рыбзаводаў найперш з-за больш высокай цаны. Летась браслаўчане перапрацавалі каля 1900 тон розных рыб. Праўда, доля рыбы, вырашчанай у рыбгасах на беларускіх вадаёмах склала толькі 142 тоны. З самага азёрнага раёна краіны сыравіны паступіла рыбкі крыху больш 2 тон. Вырошчваць рыбу ў значных прамысловых аб'ёмах чамусьці беларусы не могуць, як і не маюць выхаду да мора. Тым не менш тут пачалі мадэрнізацыю свайго рыбзавода, а на новых лініях плануюць выпускаць так званыя новыя рыбныя "лёгкія абеды".

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 14.08.14 | | | | Пятніца 15.08.14 | | | | Субота 16.08.14 | | | | Нядзеля 17.08.14 | | | | Пн.18.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +17 | +17 | +25 | +21 | +18 | +18 | +22 | +18 | +15 | +18 | +22 | +17 | +15 | +16 | +20 | +18 | +14 | +16 | +20 |
| Ціск | 744 | 739 | 737 | 739 | 739 | 740 | 741 | 742 | 742 | 742 | 741 | 741 | 740 | 741 | 741 | 742 | 743 | 743 | 743 |
| Вільготнасць | 71 | 88 | 78 | 74 | 80 | 83 | 63 | 77 | 85 | 81 | 57 | 78 | 84 | 84 | 69 | 72 | 79 | 74 | 50 |
| Вецер м/сек | 2 | 7 | 7 | 6 | 3 | 5 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 4 | 4 | 4 |

# Аб самым надзённым

## АЙЧЫННЫЯ ВНУ ЗНОЎ СУТЫКНУЛІСЯ З НЕДАХОПАМ АБІТУРЫЕНТАЎ І З НІЗКІМ УЗРОЎНЕМ ВЕДАЎ ШКОЛЬНАЙ МОЛАДЗІ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Даўно такого не было, каб вядучая навучальная ўстанова краіны – Белдзяржуніверсітэт меў вакантныя бясплатныя месцы. Па ўсёй краіне вынікі ЦТ былі ніжэйшыя, чым летась, хоць з гэтага года на 22 педагагічныя спецыяльнасці школьныя медалісты, пераможцы і прызёры вучнёўскіх алімпіяд маглі ўпершыню паступаць без экзаменаў.**

Ужо відавочна, што наша краіна патрапіла ў сапраўдную "дэмаграфічную яму", з якой вельмі няпроста будзе выбрацца. І зусім невыпадкова днямі беларускі лідар упершыню аб'явіў, што дзяржаве прыйдзецца пайсці ў бліжэйшыя гады на павышэнне пенсійнага ўзросту з-за скарачэння працоўных рэсурсаў. Таксама з кожным годам беларускай арміі ўсё цяжэй становіцца правесці прызыў на воінскую службу з-за дрэннага стану здароўя многіх прызыўнікоў, іх колькасць змяншаецца.

З аналагічнай праблемай сутыкнуліся і навучальныя ўстановы Беларусі. Нагадаем, што год назад толькі 19 з 45 дзеючых дзяржаўных ВНУ змаглі поўнасцю выканаць зацверджаны план прыёму студэнтаў. У 2013 годзе планавалася на бясплатную бюджэтную форму навучання набраць 30,5 тысяч чалавек, але айчынныя ўніверсітэты і акадэміі тады недалічыліся толькі на дзённых аддзяленнях 1700 студэнтаў-першакурснікаў. Сёлета, як вядома, сітуацыя яшчэ больш пагоршылася і прыйшлося Міністэрству адукацыі РБ аб'явіць дадатковы прыём дакументаў на вакантныя бюджэтныя і мэтавыя месцы.

Справа ў тым, што па краіне амаль 36 % паступаючых вучыцца юнакоў і дзяўчат, альбо звыш 40 тысяч абітурыентаў не справіліся з заданнямі на цэнтралізаваным тэсціраванні. Як і раней, у маладых суайчыннікаў выявілася слабае веданне дакладных навук – матэматыкі, фізікі (звыш 40 % набралі менеей неабходных мінімальных прахадных 15 балаў), а таксама замежных і нават рускай з беларускай моў. У выніку з планам прыёму студэнтаў поўнасцю сёлета справіліся толькі 4 сталічныя ВНУ і Гродзенскі дзяржуніверсітэт імя Я. Купалы.

Даўно такого не было, каб вядучая навучальная ўстанова краіны – Белдзяржуніверсітэт меў вакантныя бясплатныя месцы. Па ўсёй краіне вынікі ЦТ былі ніжэйшыя, чым летась, хоць з гэтага года на 22 педагагічныя спецыяльнасці школьныя медалісты, пераможцы і прызёры вучнёўскіх алімпіяд маглі ўпершыню паступаць без экзаменаў. Аднак у прэстыжным Мінскім педуніверсітэце імя М. Танка не набралі студэнтаў на 69 бюджэтных месц. Акрамя педагагічных спецыяльнасцей у Беларусі мала жадаючых аказалася стаць будаўнікамі, энергетыкамі, металургамі, фізікамі, спецыялістамі АПК, звязаць сваё далейшае жыццё з працай у лясной, хімічнай, харчовай і лёгкай прамысловасцю.

Праўда, ёсць прыемнае выключэнне: па выніках бюджэтнага набору былі запоўнены поўнасцю ўсе медыцынскія спецыяльнасці. Спецыяльнасць урача засталася адной з самых прэстыжных і запатрабаваных у Беларусі, у адрозненне ад працы ў сельскай гаспадарцы. З-за слабай падрыхтоўкі ў сельскагаспадарчых і ў шэрагу тэхнічных ВНУ атрымаўся самы вялікі недабор. Міністэрства адукацыі ў сувязі з гэтым да 28 ліпеня прадоўжыла тэрмін прыёму дакументаў, праўда толькі на дзённую бюджэтную форму навучання, на вакантныя месцы. У гэты пералік уключылі амаль 30 розных спецыяльнасцей і што характэрна ўсе ваенныя спецыяльнасці ВНУ Міністэрства абароны і Дзяржпагранкамітэта.

Як і для будучых аграномаў, заатэхнікаў, ветурачоў, так і патэнцыйных маладых афіцэраў па ўсім дысцыплінам на ваенныя факультэты ніжні прахадны парог знізілі да 3 з 100 магчымых балаў. На такія льготы маглі разлічваць і тыя, хто паступаў на спецыяльнасці звязаныя з далейшай працай у фізічнай культуры і спорце. Стаць студэнтам сёлета не мог той, хто на ЦТ набраў 2 і меней балаў са 100. Цікавы факт, у гэтым годзе больш 2 тысяч юнакоў і дзяўчат умудрыліся па ўсіх трох абавязковых прадметах атрымаць нават 0 і меней 3 балаў.

Вось якія веды мае цяпер у сваёй большасці наша школьная моладзь, якая стала вельмі мала чытаць, а розныя сачыненні цяпер піша з дапамогай розных камп'ютарных праграм. На шчасце, ёсць і выключэнні: 247 беларускіх вундэркіндаў-абітурыентаў атрымалі на ЦТ па 100 балаў, з 18 – нават па двух прадметах на ЦТ. Урачамі стануць тыя, хто набраў прахадныя пад 300 і вышэй балаў, а ў сярэднім на медыцынскія спецыяльнасці конкурс быў 1,8 чалавека на месца.

Цяпер хваляванні з паступленнем у большасці моладзі засталіся ў мінулым, неўзабаве ўсе 54 беларускія ВНУ адкрыюць дзверы для новага папаўнення па 382 спецыяльнасцях. Шчаслівыкі неўзабаве акунуцца ў незабываемую атмасферу шчаслівых студэнцкіх будняў. Краіна павінна атрымаць каля 29 тысяч студэнтаў першага курса, а тыя ВНУ, хто не дабярэ абітурыентаў, чакае зніжэнне бюджэтнага фінансавання.

## Дзень за днём

**Зноў беларускім пенсіянерам крыху павысілі пенсіі ў сярэднім на 7,3 %. Істотна падаражэлі на 12-20 % паслугі тэлефоннай сувязі. Па індэксу чалавечага развіцця Беларусь здала 3 пазіцыі выйшла на 58-е месца сярод 187 краін свету. З 2015 года экзамен па гісторыі Беларусі стане абавязковым для выпускнікоў школ. Беларуская і амерыканская ўязныя візы патаннелі і сталі каштаваць аднолькава. Сёлета летам колькасць загінуўшых у ДТЗ беларускіх дзетак падвоілася. Беларусы сталі меней жаніцца і выходзіць замуж, але часцей разводзіцца. Швейцарскія цягнікі палепшанага камфорту з'явяцца ў мінскім метро з 2016 года.**

## Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Афіцыйны прадстаўнік Белага дома Джош Эрнест заявіў, што ў трагічнай гібелі "Боінга" вінаватыя У. Пуцін і рускія сепаратысты, Расія будзе ў ізаляцыі "як ніколі".

**Украіна.** Услед за аб'яўленнем частковай мабілізацыі Вярхоўная Рада распусціла фракцыю камуністаў, краіну чакаюць і датэрміновыя парламенцкія выбары.

**Літва.** На адным з буйнейшых у краіне сучасных свінакомплексаў у Ігналінскім раёне па суседству з Беларуссю выявілі АЧС, прыйшлося знішчыць і закапаць 20 тысяч свіней.

**Расія.** Пасля вываду на арбіту праз некалькі дзён палёту Раскосмас страціў кантроль над навуковадаследчым спадарожнікам "Фатон-М", раней сарваўся старт баявой ракеты.

**Германія.** Дырэкцыя аўтаканцэрна Audi паведаміла, што спыняе распрацоўку сваіх электрамабіляў з-за слабага попыту на іх, але займецца новымі гібрыднымі мадэлямі аўто.

**Нігер.** Услед за аварыяй самалёта ўнутраных ліній на Тайвані побач са сталіцай краіны разбіўся алжырскі аэробус А320 з Буркіна-Фасо ў Алжыр, загінулі 116 чалавек на борце.

**Ірак.** На тэрыторыі, падкантрольнай адыёзным ісламісцкім баевікам, пачалі праводзіць прымусовае масавае "абразанне" ўсіх жанчын і дзяўчынак ва ўзросце ад 11 да 46 гадоў.

**Кыргыстан.** Суд у Бішкеку завочна асудзіў былога прэзідэнта К. Бакіева, які збег у Беларусь з каханкай і дзецьмі, да пажыццёвага зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

**ЗША.** Чарговы нумар часопіса Newsweek выйшаў з партрэтам Пуціна на вокладцы і цікавым артыкулам пра лідара Расіі, які любіць плаваць, спаць і напружвае ўвесь свет.

**Расія.** Рассельгаснагляд пачаў татальную гандлёвую вайну супраць Украіны, забараніў завоз адтуль бульбы, мяса, свіней і таксама увёў абмежаванні на пастаўкі малочнай прадукцыі.

**Польшча.** Урад краіны адмяніў усе запланаваныя ў 2015 годзе мерапрыемствы Года Польшчы ў Расіі з-за актыўнага ўдзелу расіян у драматычных падзеях на Украіне.

**Галандыя.** Пасля трагедыі са збітым "Боінгам" 29-гадовая дачка У. Пуціна Марыя пакінула з бой-фрэндам свой шыкоўны пентхаўз коштам 2,5 млн. $ у прыгарадзе Гаагі.

**Германія.** У адным з буйнейшых аэрапортаў свету Дзюсельдорфа пачала працаваць самая сучасная паркоўка легкавых аўтамабіляў робатамі на спецыяльных стэлажах.

**Англія.** Віцэ-прэм'ер урада Нік Клегг запатрабаваў адабраць у Расіі права правесці наступны чэмпіянат свету па футболе, увесці супраць яе яшчэ больш жорсткія санкцыі.

**Швейцарыя.** Кіраўніцтва ФІФА не падтрымала прапановы байкатаваць правядзенне чэмпіянату свету- 2018 па футболе ў Расіі, гэта не вядзе да вырашэння праблем яе курсу.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Ждановічы.** А. Лукашэнка запатрабаваў актыўней паўсюдна наводзіць парадак на зямлі і даручыў канфіскоўваць аўтамабілі за несанкцыянаваны вываз за горад смецця.

**Жлобін.** З-за дэвальвацыі расійскага рубля ААТ "БМЗ" зменшыў на 9 % аб'ёмы паставак металапрадукцыі ў Расію, але павялічыў адгрузку прадукцыі ў ЕС і ў Лацінскую Амерыку.

**Мінск.** Прэс-сакратар МЗС Беларусі Д. Міронічык пацвердзіў, што ўрад РБ зняў уведзеныя часовыя абмежаванні на 6 месяцаў на доступ украінскіх тавараў на беларускі рынак.

**Клімавічы.** Пасля затрымання міліцыяй былую прыёмную маці з райцэнтра абвінавацілі ў самаўпраўстве, ае 7 прыёмных дзяцей даставілі ў Магілёўскі дзіцячы дом.

**Шчучын.** На прадпрыемстве райцэнтра ААТ "Магатэкс" пашылі па заказу МНС першую партыю пасцельнай бялізны з сінтэтычных тканін, якія вельмі цяжка загараюцца.

**Гродна.** Суд пакараў 4,5 млн. рублёў штрафу мясцовага журналіста Андрэя Мялешку за супрацоўніцтва без акрэдытацыі з польскім Радыё Рацыя, за яго матэрыял на сайце радыё.

**Брэст.** Выратавальнікі МНС ліквідавалі разлітую ртуць падчас рамонту чыгуначнага палатна, 54-гадовага пешахода ля горада пераехалі на трасе М1 адразу чатыры аўтамабілі.

**Горкі.** У райцэнтры пахавалі мясцовага турыста, які разам з сябрамальпіністам з Брэста загінуў пры спробе ўзыходжання на горны вулкан Камень на Камчатцы.

**Столін.** Днём каля вёскі Сямігосцічы з-за дзіцячага свавольства з агнём згарэлі 10 гектараў азімай пшаніцы, пажарныя выратавалі яе ўраджай на плошчы яшчэ 30 га.

**Баранавічы.** Пасля 150 км пагоні і стральбы па фуры з грузам іншамарак супрацоўнікі ДАІ змаглі затрымаць 30-гадовага п'янага вадзіцеля-мінчаніна, ён здзейсніў 3 ДТЗ.

**Бараўляны.** Вечарам на трасе М3, едучы на Віцебск, 22-гадовая дзяўчына на кабрыялеце Ягуар вылецела на паласу сустрэчнага руху і пратаранила Пассат з мікрааўтобусам Форд.

**Дудуткі.** У музейным комплексе прайшоў чарговы міжнародны рыцарскі фестываль "Наш Грундвальд" з удзелам 600 рыцараў, выступілі на 2 сцэнах звыш 20 музычных груп.

**Гомель.** Незадавальненне многіх гараджан выклікала забарона купацца побач з адкрытым платным пляжам у папулярным сярод гамяльчан заліве ракі Сож.

**Рэчыца.** З-за хранічных фінансавых праблем і адсутнасці зарплат усе ігракі футбольнага клуба 1-й лігі "Рэчыца-2014" напісалі заявы аб звальненні з працы ў камандзе.

**Раўбічы.** Расійская 31-гадовая біятланістка Ульяна Дзянісава вырашыла з новага сезона выступаць за зборную Беларусі, ае не ўзялі ў каманду РФ, хоць яна выйграла Кубак Расіі.

## Новыя профільныя выпрабаванні чакаюць абітурыентаў у 2015 годзе



Interfax.by

У наступным годзе пры паступленні ў ВНУ на некаторыя спецыяльнасці абітурыентам прыйдзецца здаваць іншыя профільныя ўступныя выпрабаванні - Міністэрства адукацыі пастановай № 91 ад 2014/07/01 змяніла адпаведны пералік, якім ВНУ і якія паступаюць кіраваліся з 2009 года.

Так, у 2015 годзе абітурыенты, якія паступаюць: на спецыяльнасць «Пачатковая адукацыя» будуць здаваць біялогію (ЦТ) і гісторыю Беларусі (ЦТ)

«Тэхнічная праца і прадпрымальніцтва. Абслугоўваючая праца і прадпрымальніцтва», «Тэхнічная праца і тэхнічнае творчасць. Абслугоўваючая праца і выяўленчае мастацтва» - выпрабаванні па творчасці і гісторыю Беларусі (ЦТ)

«Класічная філалогія», «Рамана-германская філалогія», «Усходняя філалогія» - замежная мова (ЦТ) і гісторыю Беларусі (ЦТ)

«Выдавецкая справа» - замежная мова (ЦТ) і матэматыку (ЦТ) групы спецыяльнасцяў «Права» - грамадазнаўства (ЦТ) і замежная мова (ЦТ) «Грамадскае харчаванне» - хімію (ЦТ) і матэматыку (ЦТ)

У Мінадукацыі адзначылі, што па некаторых спецыяльнасцях змяніліся прыярытэты профільных спецыяльнасцяў. Напрыклад, па спецыяльнасці «Фармацыя» першым профільным прадметам будзе хімія (ЦТ), другім - біялогія (ЦТ), тады як па ўсіх астатніх - наадварот (першым - біялогія (ЦТ), другім - хімія (ЦТ)).

Акрамя таго, паколькі па спецыяльнасцях «Беларуская мова і літаратура», «Беларуская мова і літаратура. Замежная мова (з указаннем мовы) «,» Беларуская філалогія (па напрамках)» абавязковым для здачы з'яўляецца беларуская мова (ЦТ), а для спецыяльнасцяў «Беларуская мова і літаратура», «Беларуская мова і літаратура. Замежная мова (з указаннем мовы)», «Руская філалогія (па напрамках)»- рускі (ЦТ) (без права выбару), дадзеныя навучальныя прадметы пераходзяць у катэгорыю абавязковых.

Для грамадзян Беларусі, якія пастаянна пражываюць за мяжой, грамадзян Расіі, Казахстана, Кіргізіі, Таджыкістана, якія не вывучалі гісторыю Беларусі, здача гэтага выпрабавання па прадмеце замяняецца на сусветную гісторыю найноўшага часу (акрамя груп спецыяльнасцяў «Выкладанне гістарычных дысцыплін», «Гістарычныя навукі», спецыяльнасцяў «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны (па напрамках)», «гісторыка-архівазнаўства», напрамку спецыяльнасці «Дакументазнаўства (інфармацыйнае забеспячэнне кіравання)», па якіх профільнымі прадметамі з'яўляюцца абедзве гісторыі).

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Прэм'ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч запатрабаваў, каб да 1 верасня былі завершаны пусканаладачныя работы на абноўленым Арэхаўскім ільназаводзе.

**Гарадок.** Глава ўрада РБ М. Мясніковіч убачыў райцэнтр у паўразбураным стане і абурыўся, што тут падрыхтоўка да "Дажынак" правалена, грошы размазалі па аб'ектах.

**Віцебск.** У лясным масіве ля горада 22-гадовы раней судзімы пад уздзеяннем наркотыкаў задушыў ніжняй бялізнай 62-гадовую жанчыну, яна працавала ў дзіцячым лагеры.

**Браслаў.** Запасы непрададзеных кансерваў на мясцовым філіяле "Браслаўрыба" Глыбоцкага МКК перавысілі месячны аб'ём вытворчасці, іх меней стала купляць Расія.

**Полацк.** Камітэт дзяржкантролю выявіў, што рэстаўрацыю мясцовага Сафійскага сабора праводзілі дрэнна выпадковыя людзі і нават беспрацоўныя без неабходнай кваліфікацыі.

**Лынтупы.** Следчы камітэт РБ завяршыў расследванне справы па выбуху на мясцовым спіртзаводзе, па ёй вінавацяць дырэктара, энергетыка і эксперта Дзяржпрамнагляду.

**Глыбокае.** Следчы камітэт РБ перадаў пракуратуры справу ў адносінах былога першага намесніка старшыні райвыканкама, які незаконна адрамантаваў пашкоджаны аўтамабіль.

**Докшыцы.** Па просьбе УП "Ілаўскае" мясцовае польска-беларускае СП "Лайкпол" дапамагло сваім камбайнам "Арэк-3" убраць яго ўраджай чорных парэчак плошчай 10 га.

**Расоны.** Набыты летась у снежні прыватным інвестарам былы санаторый-прафілакторый "Лясное" пачаў летам аказваць новыя паслугі пакуль у сферы турызму і адпачынку.

**Віцебск.** Ужо 75 пакояў з 148 дзеючых у гасцініцы "Ветразь" змянілі свой інтэр'ер па аўтарскім дызайне ў стылі беларускіх замкаў і палацаў, музычных твораў.

**Сянно.** У гарпасёлку Багушэўск пачаў працаваць магазін папулярнай і таннай гандлёвай сеткі "Дабраном" і адразу стаў самым папулярным, на працу прынялі 13 прадаўцоў.

**Дуброўна.** Суд раёна пакараў 5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці экс-дырэктара мясцовай дыягнастычнай станцыі за атрыманне 11 разоў хабару за праходжанне тэхагляду.

**Бешанковічы.** На тэрыторыі раёна зафіксавалі 4-ы сёлета выпадак шаленства (па вобласці – 14) жывёлін, носьбітамі віруса сталі 3 сабакі і ліса, іх выявілі ў райцэнтры і 2-х вёсках.

**Віцебск.** Да 3 гадоў турмы пагражае 75-гадовай пенсіянерцы з прыгараднага раёна, яна абакрала камеру захоўвання ў адным з магазінаў, што зафіксавала відэакамера назірання.

**Наваполацк.** Федэрацыя футбола РБ папярэдзіла ФК "Нафтан" аб жорсткіх санкцыях, калі клуб да 20 жніўня не пагасіць сваю запазычанасць за ўступны заявачны ўзнос.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Вада сцюдзёная, гаючая!

■ Ул. Скрабатун

**Штогод ва ўрочышчы Грамякі адбываецца вадасвятны малебен, які прысвячаецца Вялікапакутніку і лекару Панцелеіману. Гэтым разам малебен адбыўся 9 жніўня.**

Людзі едуць да славутай крыніцы з розных месцаў Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў: хто на роварах, а хто і на аўта. Ніхто не забывае ўзяць з сабой ёмістасць для крынічнай вады, якая лічыцца гаючай цэлы год.

Трэба сказаць, што ў гады атэізму пра крыніцу забыліся, яе наноў прыйшлося шукаць, усё зарасло кустоўем і дрэвамі. Бліжэйшыя вёскі – кіламетр-паўтара. Хто пойдзе па ваду ў такую далечыню? Усе сцежкі зніклі. Дзякуючы старанням іерэя Анатоля Папова, руплівай працы прыхаджанаў асінагародскага прыходу, гадоў дзесяць таму, месца акультурана, добраўпарадкавана, прыцягнута некалькі вялікіх валуноў, а на гары, з-пад якой выцякае крыніца, узвышаецца крыж.

Крыніца выцякае з нетраў магутнай плынню, утвараючы невялікае азярцо пад метраў дзесяць у дыяметры. Вада на дне крыніцы нібыта "кіпіць", у самым цэнтры азярца бруіць ці не дванцаць струменяў. Яны бруяць і па ўсім азярцу, але ў цэнтры – найбольш. І як бачна – трапічная спёка ніяк не згасіла магутнасць крыніцы.

Айцец Анатоль папярэджваў, што купацца тут небяспечна, былі выпадкі, і неаднойчы, людзі тут тапіліся. Купацца можна праз колькі крокаў у іншым азярцы, якое ізноў утварае крынічны ручай. Дно там трывалае.

Былі смельчакі! Купаліся ў ледзяной вадзе! А віску колькі было, асабліва калі, напрыклад, бацька акунаў свайго хлапца. А большасць заходзіла басанож у ручай, аблівала цела і галаву сцюдзёнай вадой. Ногі потым амаль паўгадзіны нібы іголкамі калола.

Фактычна, з-пад гары, выцякае невялікая хуткаплынная рэчка. Звяртае ўвагу на сябе колер вады. Калі так можна сказаць, ён уяўляе сабой блакітна-зеленаваты градыент. Як мне падаецца – у вадзе прысутнічае серавадарод. Аднак аўтар гэтых радкоў не надта вялікі адмысловец у хіміі і мікрабіялогіі вады, але, дарэчы, тут не плавае ні жаба, ні жук.

Хачу толькі адзначыць, што па крыніцы святога Яна, што пад Чарневічамі, у інтэрнэце ёсць грунтоўная інфармацыя. Святаянская вада – сапраўдная мінералка! А вось пра крыніцу Грамякі ў інтэрнеце – пустэльня! Нічога не знойдзеш! І тут мы з'яўляемся першапраходцамі ў гэтай тэме.

Мерапрыемства, прысвечанае Вялікапакутніку і лекару Панцелеіману распачынаецца малебнам. Прыгожа спяваюць пеўчыя. Асвячаецца вялікі келіх вады, гэты ж асвечаны келіх вады выліваецца потым у крынічнае азярцо. Вада лічыцца гаючай цэлы год.



А ў гэтым крынічным возеры купацца можна. Вада ледзяная – жах!

Усе прысутныя стаяць вакол азярца, слухаюць малебен, хрысцяцца, на зямлі – вакол крынічнага возера – пылае некалькі сотняў запаленых свечак.

На заканчэнне прысутныя падыходзяць і прыкладаюцца да абраза Вялікапакутніка і лекара Панцелеімана, а святар абрашае ўсіх асвечанай крынічнай вадой.

Многія падыходзілі да святара пажаліцца на свае праблемы...

– Тут баліць, там баліць!– скардзіцца кабета сталага ўзросту.

Айцец Анатоль – не без гумару!

– Гэта – старасць!– кажа святар. – Колькі табе?

– 77!

На заканчэнне ўсе прысутныя набіраюць бідоны асвечанай крынічнай вады, яна, як кажуць мясцовыя жыхары, стаіць цэлы год, не мутнее.

– Дзеда, а чаго ты раней мяне сюды не браў?– пытае ўнучка Насця ў аўтара гэтых радкоў.

– Ага, паспрабуй цябе кудысьці ўгаварыць паехаць, табе сяброўкі даражэй!

– Я ж не ведала, што тут так цікава і прыгожа! Мне вельмі спадабалася!



Вада – сцюдзёная, ледзяная! Ногі коліць нібы іголкамі!



Ніхто не вяртаецца дадому без асвечанай крынічнай вады.

*Розгалас*

# Краязнаўчая канферэнцыя ў Германавічах



■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

Прыватны літаратурна-мастацкі музей імя Міхася Райчонка даўно з'яўляецца цэнтрам розных цікавых імпрэзаў. Стваральніца музея Ада Эльеўна Райчонак згуртоўвае лепшыя творчыя сілы з усёй Беларусі. Паэты, мастакі, краязнаўцы, барды ахвотна бяруць удзел у вечарынах, гасцёўнях, прэзентацыях, чытаннях, канферэнцыях. Тэматыка гэтых сустрэч творчых асоб вельмі цікавая і living разнабаковая.

У пачатку ліпеня адбылося чарговае мерапрыемства – краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная паўстанню Кастуся Каліноўскага 1863-1864гг. У ёй бралі ўдзел аматары-краязнаўцы, гісторыкі, навукоўцы з Глыбокага, Паставаў, Мёраў, Браслава, Полацка, Мінска.

Асабліва цікавымі былі даклады Вадзіма Шушко "Пастаўшчына ў часы паўстання 1863-1864 гадоў", Ганны Базарэвіч "Героі-паўстанцы Браслаўшчыны". Выступоўцы - прадстаўнікі маладога пакалення, якія зацікаўлены зберагчы сваю спадчыну.

На мясцовым матэрыяле гістарычнага мінулага былі пабудаваны выступы Ады Райчонак "Барацьба за аднаўленне Лужэцкай сінагогі", Рыгора Шарыпкіна "Гісторыя царквы ў вёсцы Бушыкі", Зміцера Лупача "Назвы вуліц Глыбокага".

Змястоўным быў даклад Антона Астаповіча, старшыні беларускага добраахвотнага Таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры. Краязнаўцам-аматарам і навукоўцам трэба прыкласці шмат намаганняў, каб у гістарычным мінулым беларусаў было ўсё менш белых плямаў, недакладнасцяў, недамоўленасці – высноваы выступаў дакладчыка.

На прыканцы адбыўся канцэрт бардаў Тацяны Беланогай і Змітра Бартосіка.

**Кастусь Каліноўскі**

За Бацькаўшчыну, волю і народ
Ішлі сяляне й шляхта ў яго войска.
Штандар паўстання ўзняў у той даўні год
Ён, барацьбіт, зямлі сын – Каліноўскі.
Душыцелі зямлі яго вялі
Да шыбеніцы змагара за шчасце,
Чыю і "мову й годнасць затаўклі
У гразь", і аднялі народнае багацце.
Крынічка памяці аб Кастусю бруіць,
З яе – мужыцкай праўды ручаіна.
Бы голас Каліноўскага гучыць:
"Узнімайся, мой народзе, за Айчыну!"

*У двукоссі словы належаць К.Каліноўскаму (Ул. Караткевіч "Каласы пад сярпом тваім").*

# Зводка аб дарожна-транспартных здарэннях у Глыбоцкім раёне

**11.05.2014** года каля 01.15 гадзін на 2-м км аўтадарогі Станулі - Мярэцкія грамадзянін "З", кіруючы аўтамашынай Опель Вектра, на закругленні дарогі не зладзіўся з кіраваннем транспартнага сродку, з'ехаў у кювет, дзе транспартны сродак перакуліўся. У выніку дарожна-транспартнага здарэння непаўналетні "Р", які знаходзіўся ў салоне аўтамабіля ў якасці пасажыра, атрымаў цялесныя пашкоджанні, быў шпіталяваны ў УЗ Глыбоцкая ЦРБ, дзе ад атрыманых траўмаў памёр 27.05.2014 года.

***

**06.08.2014** года на 77 км аўтадарогі Полацак - Глыбокае - мяжа Літвы, кіроўца аўтамашыны «Peugeot 407», грамадзянін "М", рухаючыся на 77 кіламетры аўтадарогі Полацак - Глыбокае - мяжа Літвы, у бок г. Глыбокае з боку г. Полацку, ля вёскі Гваздова, здзейсніў наезд на веласіпедыста грамадзяніна "П", які рухаўся ў спадарожным кірунку, у краю праезнай часткі. У выніку дарожна-транспартнага здарэння веласіпедыст "П" 43-гадовы жыхар вёскі Азерцы, ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр пры дастаўленні ў УЗ "Глыбоцкая ЦРБ".

*Глыбоцкая АДАІ.*

# У Беларусі будзе яшчэ раз значна скарочаны дзяржаўны апарат

**Аляксандр Лукашэнка мяркуе, што ў краіне можна яшчэ ўдвая скараціць дзяржаўны апарат і значна падняць выканальніцкую дысцыпліну.**

Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў сёння, прымаючы кадравыя рашэнні.

«У бліжэйшы час мы яшчэ раз падыдзем да значнага скарачэння ад дзяржаўных служачых. Не таму, што яны дрэнныя, а таму, што нам трэба падымаць выканальніцкую дысцыпліну», — сказаў ён.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што за кошт чарговага скарачэння дзяржапарату будзе павышана заработная плата дзяржаўных служачых, а таксама іх статус.

*БелТА*



# Не згубіць бы нам чалавечнасць...

*“Отдельные личности могут морально разложиться, народ – никогда. Народ может страдать от морального разложения отдельных своих представителей, но в целом он не поддаётся им”.*
*Юлиус Фучик*





■ Фадзей Шымуковіч, *настаўнік-пенсіянер, краязнаўца, г. Дзісна.*

Прэзідэнт краіны даў згоду на правядзенне чарговай школьнай рэформы. Ці не вельмі часта, прытым бяздарна і непрадумана, праводзім школьныя рэформы? У выніку гэтых “рэформ” мы давялі нашу школу да такога стану, што большасць дзяцей не хоча вучыцца, у іх няма матывацыі атрымоўваць сярэднюю, а потым сярэдне-спецыяльную і вышэйшую адукацыю. Не, атэстаты аб сярэдняй адукацыі і дыпломы аб вышэйшай гатовы атрымоўваць многія, нават за вялікія грошы. А вось адпаведныя веды - не!

А рэальныя абставіны ставяць перад намі канкрэтную і прамую задачу – жадаеце знаходзіцца на ўзроўні сусветных развітых цывілізацый – спасцігайце навуку, набывайце практыку, станавіцеся высокакваліфікаванымі спецыялістамі, не жадаеце – пляціцеся ў хвасце, рыхтуйцеся на выміранне.

Валоданне сучасным чалавекам вялікім аб’ёмам ведаў ужо паскарае тэмпы ўкаранення новых тэхналогій у паўсядзённае жыццё. Уявіце, сёння любое дзіця, якое валодае смартфонам, мае доступ да большай колькасці ведаў, чым прэзідэнт ЗША 15-20 год назад.

У XV стагоддзі Іаган Гуттэнберг вынайшаў друкарскі станок, але для таго, каб яго маса стала выкарыстоўвацца, спатрэбілася 400 год. На выкарыстанне і распаўсюджванне стацыянарнага тэлефона спатрэбілася 50 год. Сотавы тэлефон увайшоў у наша жыццё за 7 год, а сацыяльныя сеткі – за 3 гады.

Сучасны смартфон у міліярды разоў больш магутны, чым камп’ютар, які выкарыстоўваўся 40 год назад. А праз 25 гадоў персанальныя камп’ютары будуць у 100 тысяч разоў меншыя і больш магутныя ў мільярды разоў, яны будуць інтэгрыраваныя ў цела чалавека. І гэта ўжо не фантастыка, а рэальнасць.

Тэмпы тэхнічнага прагрэсу паскараюцца два разы кожныя 10 год. Наступныя 10 год ужо сыдуць за 20, а затым за 40, гэта значыць, XXI век будзе эквівалентны 20 тысячагоддзям развіцця прагрэсу сучаснымі тэмпамі. Гэта не фантазія, а папярэджанне новаму пакаленню. І сёння неабходна сур’ёзна і настойліва расталкоўваць і ўкараняць у розум нашых вучняў, што іх чакае ў бліжэйшыя 20-30 год. Калі яны хочуць пражыць сваё жыццё прыстойна, то павінны вельмі сур’ёзна ўдзяляць увагу вучобе і выхаванню, калі іх цікавіць лозунг “абагачайся і весяліся”, падобна страказе, то іх чакае беднасць і поўнае расчараванне жыццём. Гэта павінна чырвонай ніткай прахадзіць і ў школьнай праграме, і ў сямейным выхаванні.

Ужо ў першай палове нашага стагоддзя чакаецца стварэнне разумных малекулярных робатаў-урачоў, якія будуць знаходзіцца ўнутры чалавечага арганізму для таго, каб ліквідаваць усе пашкоджанні органаў. А гэта дае магчымасць чалавеку пражыць роўна столькі, колькі закладзена ім прыродай.

Магчыма, да 2040 года мазгі чалавека ўжо будуць складаць гібрыд біялагічнага і электроннага тыпаў мыслення, цесна звязаных адзін з адным. Чалавек ужо не будзе абмяжоўвацца ўсяго сотняй трыльёнаў злучэнняў у мазгах, а значна пераўзыдзе гэты ўзровень. Сёння ні для каго не сакрэт, што сучасны чалавек у адрозненне ад жывёльнага свету мае два пачаткі: біялагічны (жывёльны) і маральны. І сёння ўзровень маральнасці чалавека залежыць ад таго, у якой прапорцыі гэтыя пачаткі. Сам чалавек, грамадства і дзяржава зацікаўлены ў тым, каб верх брала маральнасць. А гібрыд біялагічнага і электроннага тыпу будзе мець тры пачаткі, прычым значную ролю будзе мець электронны пачатак, якому да лямпачкі маральнасць. Ёсць вялікая небяспека згубы чалавекам маральнасці, чалавечнасці. Пытанне яшчэ і ў тым, на што будзе накіравана ідэя, узнікшая ў галаве такога мадэфіцыраванага чалавека? А калі… Падумаць страшна. Вось чаму на дадзеным этапе на першае месца павінна быць пастаўлена не навучанне, а выхаванне. Выхаванне высакамаральнай асобы сёння самая галоўная праблема, і мы яе павінны рашыць, чаго б гэта нам не каштавала.

Узнікае пытанне, а хто яе будзе рашаць, у нас ёсць для гэтага падрыхтаваныя кадры, здольныя на гэта, прычым у масавым парадку? Частка сучасных педагогаў, якія заканчваюць педуніверсітэты з веданнем прадметаў з адзнакай “4” і “5” па 10-бальнай сістэме, якія хоць як паздавалі экзамен, хто на “халяву”, а хто і з дапамогай татавага кашалька ў добры калектыў яўна не ўпішуцца. У свой час, калі я працаваў у школе, перад намі стаяла некалькі іншая задача. Мы павінны былі выхаваць савецкага чалавека – гэта бескарысную істоту, якая працуе на народ, а не на кішэнь, патрыёта – “жила бы страна родная и нету других забот”, чалавека, які мог прыйсці на дапамогу іншаму і не прасіць за гэта ніякіх паслуг у адказ або платы. Канечна ж, ідэал вельмі адрозніваецца ад рэальнасці. Такім чынам, чалавек, які выхоўваўся намі, не пакутваў комплексамі рэлігійнай і нацыянальнай розні, г.зн. савецкі чалавек – гэта была канструкцыя вельмі нават не дрэнная. Мінус быў толькі адзін: не думаць нічога, за нас думаюць правадыры. Ён быў камфарміст па перакананнях, заўсёды рабіў тое, што ад яго патрабуецца. Але як толькі вучні таго часу пачыналі думаць і ўзважваць, некаторыя з настаўнікаў пападалі ў цяжкае становішча.

Аднойчы прыходзіць з урока геаграфіі ў настаўніцкую настаўнік і звяртаецца да мяне, што мой сын паставіў яго ў нялёмкае становішча. Сутнасць пытання адмовіўся паясніць. У нас з жонкай было строгае правіла, нікога з настаўнікаў у сям’і не абмяркоўваць. Дома я запытаў у сына, што ў яго адбылося на ўроку геаграфіі? Надакучыла нам ад настаўніка геаграфіі і настаўніка фізікі слухаць тлумачэнне новага матэрыялу ў рамках падручніка. Абодва пакладуць перад сабой падручнік адкрытым і тлумачэнне новага матэрыялу, і апытанне - у рамках параграфа. А геаграфу я не вытрымаў і зрабіў заўвагу, таму што ён, тлумачачы новы матэрыял, сцвярджаў, што Паўднёвая Карэя адсталая аграрная краіна, вось я і запытаў у яго, на якіх асновах ён зрабіў гэта заключэнне, калі афіцыйна ў даведніку “Краіны свету” за мінулы год сказана, што Паўднёвая Карэя ўваходзіць у дзясятку самых развітых капіталістычных краін. Якія глыбокія і моцныя веды мог даць такі настаўнік?

У маей практыцы былі прыклады і іншага плана. Калі я працаваў настаўнікам матэматыкі ў Дзісненскай васьмігодцы, у 8 класе быў вучань, Андрыеўскі Аляксандр, выдатнік, які любіў эксперыменты пры рашэнні задач. Бывала так выканае кантрольную работу, настолькі арыгінальныя рашэнні задач, што душа за яго радуецца. Іншы раз так “наэксперыментуе”, што незразумела, што і к чаму. Пытаюся: “Саша, гэту ж задачу традыцыйным спосабам вельмі проста рашыць”. А ён у адказ: “Традыцыйным спосабам нецікава, а вось знайсці штосьці арыгінальнае – адно задавальненне”. Канечне ж, за чвэрць і гадавыя ў яго былі пяцёркі. Хлопец закончыў тэхнічную вышэйшую ўстанову, абараніў кандыдацкую дысертацыю, а можа ўжо і вышэй, працуе выкладчыкам у Полацкім універсітэце. Ні ў якім выпадку нельга на корані нішчыць ініцыятыву да ведаў вучня, а аказваць яму ўсялякую дапамогу.

Розум вывеў чалавека на шлях тэхналагічнага прагрэсу, і той стаў дыктаваць яму тэмп руху, супрацьстаўячы чалавека Прыродзе. Ён паверыў у сваю магутнасць і, трацячы сувязі з Прыродай, уявіў сябе яе гаспадаром. Час паказвае: цывілізацыя па такім шляху далёка не пойдзе. Таму школьная праграма павінна быць пабудавана такім чынам, што чалавек са школьнай лаўкі павінен прывучаць сябе да таго, што ад прыроды можна і патрэбна браць многа, але з розумам, не разбураючы аснову прыроды.

Колькі ні існуе чалавек, яго розум шукае згоды з душой, і яна набыла ўласцівасць адгукацца, настрайвацца на гэты кліч, прымаючы або не прымаючы нашы дзеянні і ўчынкі. З малаком маці перадаецца духоўная ўспрымальнасць. З яе вырастае ўсведамленне, якое аб’ядноўвае нас, умацоўваючы свет. Без гэтага ўсё рассыпецца. Усведамленне – гэта вышэйшая, уласцівая толькі людзям і звязаная з мовай функцыя мазгоў, якая заключаецца ў грамадскім і мэтанакіраваным адлюстраванні рэчаіснасці, у папярэдняй пабудове дзеянняў і прадбачанні іх вынікаў, у разумным рэгуляванні і самакантраляванні паводзін чалавека. Падумайце, ці можна сфарміраваць асобу не навучыўшы чалавека, не сфарміраваўшы ў яго ўсведамленне?

Сціраючы межы паміж чалавекам і стварэннямі, падобнымі на нас, надзяліўшы іх здольнасцю свядома дзейнічаць, нам не падуладна ўсяліць у іх душу – аснову духоўнага ўсведамлення. Ствараючы біяробатаў, мы, па сутнасці, бяром на сябе ролю Тварца, але, не ведаючы глыбінь яго задум, займаемся калькаваннем сябе.

***

Сёння, ствараючы генетычна мадэфікаваныя прадукты і дабіваючыся пэўных якасцяў (прывабны знешні выгляд, смакавыя якасці і г.д.) мы не заўсёды можам ацаніць ступень іх аддаленых вынікаў для арганізма. Тое ж будзе і з тымі, каго парадзім. На якімсьці этапе яны могуць трансфарміравацца ў нешта, аддаленае ад нас, яны могуць выйсці з падпарадкавання. Я ўжо казаў, што ў іх душу не ўкласці, гэта не ў нашых магчымасцях. Пачуцці, уяўленні ў штучны розум не ўкладзеш, а значыць, створаным істотам нас ніколі не зразумець. Яны не змогуць успрымаць наш духоўны свет, як недаступна ім разнастайнасць адценняў нашага жыцця. Яны будуць разглядаць нас з пазіцыі сваіх здольнасцяў дзейнічаць рацыянальна, у чым мы будзем ім уступаць. Але на нейкім этапе мы можам страціць над імі кантроль і тады прыйдзецца абараняцца ад замаху тэхнагеннай цывілізацыі, каб супрацьстаяць уздзеянню істот, якіх мы парадзілі самі.

Што тычыцца асветы, то ў першую чаргу педуніверсітэты неабходна ўкамплектаваць кадрамі студэнтаў, здольных стаць сапраўднымі педагогамі. А каб выпускнікі імкнуліся набыць спецыяльнасць педагога, яго патрэбна падняць на пэўную вышыню не на словах, а на справе. Мы добра ведаем, што патрэбна для гэтага зрабіць. Сучасная практыка – кожнаму сярэднюю адукацыю - зжыла сябе. Кожны, хто атрымоўвае сярэднюю адукацыю, абавязаны на любых экзаменах, выпускных, уступных іх пацвердзіць іх на практыцы. Школьная адзнака ў атэстаце павінна адпавядаць узроўню ведаў вучня. Бал, меншы “4” лічыць нездавальняючым. Асаблівая ўвага павінна быць удзелена выхаваўчаму працэсу, а іменна: фарміраванню асобы чалавека, як носьбіта лепшых маральных якасцяў.

**Дзяржава павінна быць зацікаўлена ў тым, каб нашы ВНУ і ССУ выпускалі спецыялістаў высокай кваліфікацыі, з аднаго боку – прафесіяналаў, з другога – Чалавекаў.**

# З-за сваркі з суседам жыхар Шаркоўшчыны можа пазбавіцца працы

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

**Гэта можа адбыцца з-за звычайнага бытавога канфлікту.**

Як паведаміў жыхар Шаркаўшчыны Леанід Арцімовіч, усё пачалося з-за яго канфлікту з суседам Іванам Хаданёнкам. Сусед мае трактар і аўтамабіль, дым ад якіх перашкаджае суседу, бо іх дамы знаходзяцца побач. На заўвагі свайго суседа Іван Хаданёнак не рэагаваў, таму Леанід Арцімовіч напісаў скаргу на свайго суседа.

Тут варта адзначыць, што Іван Эдуардавіч у свой час працаваў у Шаркаўшчынскай сельгасхіміі, прычым не шараговым работнікам, таму і зараз мае вялікія сувязі сярод кіраўніцтва раёна. Таму вынік атрымаўся такі: скаргу Леаніда Арцімовіча не задаволілі, а вось Іван Хаданёнак у сваю чаргу паскардзіўся на тое, што сусед пасадзіў дрэвы вельмі блізка ад мяжы.

Пасадку гэтых дрэў Леанід Алегавіч тлумачыў тым, што хацеў абараніцца ад дыму з транспартных сродкаў суседа.

Адміністрацыйная камісія Шаркаўшчынскага райвыканкама прымусіла яго прыбраць гэтыя дрэвы і ў дадатак яшчэ аштрафавала на 600 тысяч рублёў за парушэнне правілаў, рэглементаваных тэхнічным кодэксам. Праўда, чамусьці ў пастанове адміністрацыйнай камісіі напісалі "за парушэнне правіл гандлю".

Свае насаджэнні спадар Леанід прыбраў, засталіся толькі тры яблыні, якім каля трыццаці гадоў. Іван Хаданёнак патрабуе, каб сусед прыбраў і іх. Праўда, адміністрацыйная камісія ўдакладняе, што яна не прымушае зразаць гэтыя яблыні, дастаткова іх перасадзіць згодна з нормамі. Але, каб перасадзіць такія дрэвы, неабходна спецыяльная тэхніка, праца якой каштуе не малых грошай.

А на суседскім участку расце груша, якая таксама пасаджана з парушэннямі тэхнічнага кодэкса. Леанід Алегавіч згодны прыбраць свае яблыні, калі і сусед зрэжа сваю грушу. Ад яго ж гэтага не патрабуюць. Ды і суседскія куры размешчаныя побач з участкам Арцімовіча, хаця гэты ж тэхнічны кодэкс патрабуе, каб адлегласць была не менш за 4 метры.

Больш за тое, сусед, па словах Леаніда Арцімовіча, карыстаючыся сваімі сувязямі, стаў пагражаць яму праблемамі на працы. І праблемы на працы сапраўды пачаліся. Начальства стала патрабаваць ад Леаніда Алегавіча забраць назад свае скаргі, пагражаючы яму звальненнем.

*Мяне з працы выганяюць, ужо канкрэтна, у мяне нармальная праца, у ўсё навёў, усе журналы, праверка была міжраённая глыбоцкая, лепш за ўсіх у мяне ў раёне было.*

*Губляю працу, мне ўжо канкрэтна прыехаў Кукуць і заявіў, пойдзеш у пракуратуру (у мяне напісана скарга ў пракуратуру), значыць выганім з працы. Адкрытым тэкстам,* – кажа Леанід Арцімовіч.

Тут варта зазначыць, што гэта размова адбывалася два месяцы таму.

Галоўны спецыяліст па ахове працы Шаркаўшчынскага райсельгасхарчу Міледзій Кукуць сказаў, што пакуль Леаніда Арцімовіча ніхто звальняць не збіраецца, але пытанні да яго працы ў яго ёсць:

*– Пакуль жа не звальняем, але ж у яго праблем шмат, працаваць не хоча, паедзеш, нічога не роблена, гэта ж не работа. Калі ж так будзе рабіць, то дакладна выганім.*

Праваабаронца з Беларускага Хельсінскага камітэта Ганна Мартыноўская лічыць, што нельга проста так звольніць чалавека з працы, калі ён добрасумленна выконвае свае абавязкі:

*– Я лічу, гэта дыскрымінацыя ў сферы працоўных адносін. Таму што проста чалавека прыбраць з працы, калі ён адпавядае ўсім патрабаванням, калі падпісаны кантракт, калі падпісаная інструкцыя, то як яго можна звольніць па якіхсьці іншых абставінах, калі ён не пітушчы, калі адпавядае ўсім патрабаванням, усім крытэрыям, калі ў яго дастаткова адукацыі.*

Згодна з апошнімі дадзенымі Белстата заробак у Шаркаўшчынскім раёне самы ніжэйшы па краіне. Праўда і тое, што ў такім паселішчы цяжка знайсці іншую працу, таму людзі баяцца страціць тую, якую маюць. А вось мясцовае начальства гэтым актыўна карыстаецца, каб трымаць людзей у страху. На дадзены момант спадар Леанід ужо атрымаў вымову ад вышэйстаячага начальства, пытанне аб яго звальненні застаецца адкрытым.



**На здымку:** Леанід Арцімовіч каля сваіх яблынь, якія трэба прыбраць.

Нам удалося датэлефанавацца да Івана Хаданёнка. Той адмаўляе сваё перадузятае стаўленне да суседа, кажа, што ён піша свае скаргі беспадстаўна. Ён гатовы нават прымірыцца з суседам, але, маўляў, той гэтага не хоча. Іван Хаданёнак кажа, што райвыканкам дазволіў паставіць яму суцэльны плот, каб адгарадзіцца ад свайго суседа.

Гэты матэрыял быў падрыхтаваны два месяцы таму, але я чакаў, што суседзі ўсё ж памірацца. Бо, на маю думку, жыць у пастаянным канфлікце з суседам каштуе вялікіх нерваў і, часам, некаму ў нечым трэба саступаць. Падобна на тое, што ў дадзеным выпадку канфлікт "мірным" шляхам не вырашыцца. Са свайго боку абяцаем сачыць за далейшым развіццём падзей.

У заключэнне хацелася б сказаць некалькі слоў. Мы пакуль не можам сказаць канкрэтна, хто больш вінаваты ў дадзенай сітуацыі. Але ў апошні час людзі ўсё часцей звяртаюцца з падобнымі пытаннямі да недзяржаўных журналістаў. Таму можна сцвярджаць, што такая праблема ў нашым грамадстве існуе.

Праблема гэта ў тым, што кіруючыя работнікі на месцах маюць амаль неабмежаваную ўладу і адзіным тормазам тут можа быць толькі сумленне чалавека. Але ў кожнага яно рознае. Таму і здараюцца падобныя выпадкі, калі чалавек, які хоць нейкім чынам датычны да ўлады, вырашае, што яму ўсё можна.

Даходзіць нават да смешнага. Аўтар гэтага матэрыялу быў сведкам таго, як адна маладая жанчына пасварылася ў паліклініцы з-за чаргі. (Я спецыяльна не пішу, у якім з нашых раёнаў гэта адбывалася, бо падобныя выпадкі могуць быць у любым з раёнаў нашага рэгіёна.) Пры гэтым маладая асоба крычала: «Вы не знаете, кем мой дедушка работает!». Як аказалася, яе дзед працаваў начальнікам мясцовага свінакомплексу. Што ж тады гаварыць пра больших начальнікаў! Яны наогул могуць пачувацца ўдзельнымі князямі. І некаторыя так і паступаюць!

Наша ўлада стварыла ідэальную сістэму, каб чалавек нікуды не мог паскардзіцца. Усе яго скаргі зноў адпраўляюцца для разбіральніцтва на месца, гэта значыць да тых чыноўнікаў, якія гэтага чалавека і пакрыўдзілі.

Нават савецкая сістэма такога сабе не дазваляла, зваротная сувязь з народам там неяк падтрымлівалася. Цяперашняя сістэма, вядома, зручная для начальства – колькі не пішу скаргаў, яны ўсё адно прыйдуць да нас, а будзеш шмат пісаць, то наогул месца ў раёне не знойдзеш. Ёсць і такія пагрозы. І гэта не ў адным канкрэтным раёне.

Толькі ж і цярпенне ў народа не бязмежнае, якім бы талерантным яго не называлі. У нас шмат гавораць і пішуць, што ў сітуацыі ва Украіне вінаваты Захад, і як заклцяце паўтараюць, што ў нас такога не будзе.

Але ж у тым, што адбылося і адбываецца зараз у нашай краіне-суседцы, у першую чаргу павінны непамерныя карупцыйныя апетыты чыноўнікаў, тых людзей, што былі ва ўладзе. Таму варта было б павучыцца на памылках іншых, каб не паўтарыць гэтага ў нашай краіне.



**На здымку:** Леанід Арцімовіч каля праблемнай мяжы ўчасткаў.

# ІНФАРМАЦЫЯ для рыбаловаў-аматараў

Пастановай Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь 2014/05/19 г № 22 ад 19.05.2014 года усталяваны пералік рыбалоўных угоддзяў, якія складаюць фонд запасу рыбалоўных угоддзяў, у якіх рыбаловы, якія з'яўляюцца сябрамі рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «БТПР» не маюць права на аматарскае рыбалоўства наступным спосабам:

■ лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі;

■ падводнае паляванне.

У гэты пералік увайшлі наступныя вадаёмы фонду запасу рыбалоўных угоддзяў Глыбоцкага р-на:

1. воз. Алойзберг
2. воз. Бяглец
3. воз. Белае ў в. Бабруйшчына
4. воз. Белае ў в. Івесь
5. воз. Гінькава
6. воз. Доўгае

Гэта пастанова зарэгістравана ў Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь 2014/07/31 № 8/28956 і ўступіла ў сілу з 2 жніўня 2014 г.

На ўсіх астатніх вадаёмах, што складаюць фонд запасу рыбалоўных угоддзяў Глыбоцкага раёна, грамадзяне, якія з'яўляюцца членамі РАС РДГА «БТПР» маюць права ажыццяўляць бясплатнае аматарскае рыбалоўства наступнымі спосабамі:

■ лоўля рыбы з прымяненнем прылад аматарскага рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў ад 6 да 10 штук на рыбалова;

■ лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі; пры лоўлі рыбы на дарожку з судна з рухавікамі дазваляецца выкарыстанне адной прынады на аднаго рыбалова;

■ падводнае паляванне.

У рыбалоўных угоддзях, прадастаўленых у арэнду, арандатарамі гэтых рыбалоўных угоддзяў арганізоўваецца платнае аматарскае рыбалоўства, якое ажыццяўляецца ў адпаведнасці з усталяванымі квотамі на вылаў рыбы.

Інфармацыя аб рэжыме платнага аматарскага рыбалоўства і парадак рэалізацыі пуцёвак на платнае аматарскае рыбалоўства павінна быць агульнадаступнай.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на тэлефоне даверу Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 або маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49

***А.А. Федзічкін,*** *наместнік начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

